# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 33 (2227)

15 жніўня 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.


## ДАГАВОР З ТАДЖЫКІСТАНАМ

**Беларусь і Таджыкістан заключылі дагавор аб асновах міждзяржаўных адносін і пагадненне аб эканамічным супрацоўніцтве на 1992 год.**

Подпісы пад гэтымі дакументамі паставілі Старшыня Вярхоўнага Савета БССР М. Дзямянцей, Прэзідэнт Таджыкскай ССР К. Махкамаў, першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР М. Мясніковіч і першы намеснік прэм'ер-міністра Таджыкскай ССР Д. Карымаў.

Пасля цырымоніі падпісання дакументаў, якая адбылася ў канцылярыі Прэзідэнта Таджыкістана, нашу дэлегацыю павезлі ў Нурэк — на буйнейшую ў Сярэдняй Азіі гідраэлектрастанцыю, чый магутны энергетычны імпульс даходзіць і да Беларусі. Праз лабірынты тунеляў кавалькада машын пад'ехала да сціплага помніка на верхняй пляцоўцы 300-метровай плаціны. Падняты на пастамент працаўнік-БелАЗ лепш за любыя словы пераконваў у рэальнасці такіх паняццяў, як дружба, узаемадапамога, супрацоўніцтва. Надаць ім новы імпульс і новую сучасную прававую форму, зрабіць па-сапраўднаму выгаднымі для абодвух народаў і заклікаты новы міжрэспубліканскі дагавор.

— Невялікія рэспублікі, такія, як Беларусь і Таджыкістан, асабліва зацікаўлены ў палітычным збліжэнні, сінхранізацыі сваіх эканамічных патэнцыялаў за кошт наладжвання прамых гаспадарчых сувязей, — гаворыць Мікалай Дзямянцей. — Таму і дамаўляцца ім часта лягчэй, чым "вялікім" суседзям, якія лічаць за лепшае разлічваць на ўласныя сілы і рэсурсы. Вось і ў Душанбе мы сустрэлі не толькі самы цёплы прыём, але і поўнае ўзаемаразуменне. Таджыкістан гатоў пастаўляць у Беларусь высакаякасную бавоўну, шрот, шаўковыя тканіны, агародніну, фрукты, прадукцыю горнаруднай і хімічнай прамысловасці, прымаць на аздараўленне жыхароў чарнобыльскай зоны, наладжваць сумесныя кірмашы, развіваць турызм... Наш дагавор поўнасцю адпавядае нормам міжнароднага права, гарантуе захаванне правоў грамадзян кожнай рэспублікі. У Таджыкістане пражывае звыш сямі тысяч нашых суайчыннікаў, і ўрад проста абавязаны паклапаціцца аб тым, каб сярод іх ніколі не паявіліся бежанцы.

Падпісаўшы пагадненне аб супрацоўніцтве, дэлегацыі тут жа зрабілі першыя крокі па яго рэалізацыі. Вырашана да верасня адкрыць у Мінску і Душанбе прадстаўніцтвы рэспублік, у бліжэйшы час дэталёва абмеркаваць праграму супрацоўніцтва.

НА ЗДЫМКУ: падпісанне дагавора паміж Беларуссю і Таджыкістанам.

*СУСТРЭЧА Ў «ГАСЦЁЎНІ ГАЛУБКА»*

## КРЫНІЧНАЯ ВАДА АЖЫВІЛА НАШЫ СЭРЦЫ

У першы дзень жніўня ў так званай "Гасцёўні Галубка" адбылася сустрэча беларусаў з-за акіяна з прадстаўнікамі тутэйшай беларускай інтэлігенцыі. Шлях на Бацькаўшчыну для Сяргея Карніловіча, Янкі Азаркі, Евы Яраховіч, Міхася Мітраховіча, Адольфа Суботы і яшчэ некалькіх беларусаў расцягнуўся, бадай, на 50 гадоў. Ехалі і раней беларусы на сваю Радзіму, сустракаліся са сваякамі, дзівіліся нашым пераменам і радаваліся за нас, але частка суайчыннікаў не рашалася на падобнае падарожжа. Не тыя часы былі, не тыя адносіны да людзей з няпростым лёсам. Простым быў толькі прысуд: апынуўся пасля вайны за мяжой, значыць, у большасці выпадкаў — вораг. Жыццё, як аказалася, намнога больш складанае, розныя дарогі і розныя прычыны — асабістыя крыўды, страх, нават каханне — вялі мужчын і жанчын у чужы незнаёмы свет, дзе яны прыжываліся, выхоўвалі дзяцей. Але чым больш мінала гадоў, тым больш нясцерпным станавіўся сум па роднай зямлі і пакінутых сваяках, нібы музыка, успрымаліся гукі матчынай мовы. Любоў да беларускага слова, сваёй гісторыі, літаратуры, цяга да сваіх каранёў падштурхнулі да стварэння ў Кліўлендзе беларускага грамадска-культурнага цэнтра Полацак, найпершым энтузіястам якога з'яўляецца Сяргей Карніловіч. Ён сказаў, выступаючы ў гасцёўні, што ніхто з іх вялікага багацця не нажыў за акіянам, бо найбольш клапаціліся аб духоўных набытках. І ў Мінск прыехалі дзеля таго, каб завязаць лучнасць з намі.

Вітаючы гасцей, старшыня Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" пісьменнік Яўген Лецка сказаў, што ён уражаны тым, як яны за столькі гадоў не згубілі сваёй беларускасці, якая праяўляецца ў іх мове, у звычках, у характарах, нават у знешнім выглядзе і паводзінах.

Знаходзячыся ў Мінску, нашы суайчыннікі пабывалі толькі ў тых мясцінах, якія пажадалі наведаць самі. Гэта былі Хатынь і Курапаты, музеі Янкі Купалы і Якуба Коласа, Вязынка. Яны знаёміліся з жыццём Беларусі, з яе людзьмі. Канешне, трапілі яны да нас не ў лепшы час, жыццё наша раней было багацейшым і спакайнейшым, але нават такая Бацькаўшчына зрабіла на гасцей някепскае ўражанне. Можа таму, што, чуючы толькі енк і праклёны, разлічвалі ўбачыць тут голад і жабрацтва.

— А Беларусь жа такая цудоўная краіна! — сказалі яны. — Вось толькі не ўмее расказаць пра сябе іншым народам і паднесці сябе, як належыць, не ўмее. Зараз прадстаўніком Беларусі ў ААН працуе паэт Генадзь Бураўкін. У нас з ім наладзіліся добрыя адносіны. Ён многа робіць дзеля таго, каб мацаваліся нашы кантакты з Радзімай.

(Заканчэнне на 7-й стар.).

*ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ*



3-га жніўня ў вёсцы Доры Валожынскага раёна адбылося адкрыццё помніка вяскоўцам, якія былі спалены тут нямецкімі фашыстамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Сотні людзей прыйшлі, каб ушанаваць памяць загінуўшых. На мітынгу выступіў член Палітбюро ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КПБ А. Малафееў.

Фота М. БАНДАРЫКА.

БЕСПРАЦОЎЕ

## ПЕРШАЯ ЛАСТАЎКА

Больш за дзесяцё брэстаўчан звярнуліся з пачатку месяца ў гарадскі цэнтр занятасці насельніцтва. Многія з іх пасля разгляду заяў атрымалі статус беспрацоўных — першых, афіцыйна зарэгістраваных у горадзе.

Згодна з канвенцыяй Міжнароднай арганізацыі працы, дапамога па беспрацоўі будзе выплачвацца як мінімум 26 тыдняў. Яе памер залежыць ад таго, ці працаваў чалавек раней, да страты работы, і які час, але не перавысіць падвоеную мінімальную зарплату, якая сёння складае 70 рублёў.

У Брэсце стварэецца дзяржаўны фонд садзейнічання занятасці. На час яго станаўлення гарвыканком выдзеліў 150 тысяч рублёў, якія пойдуць на выплату дапамогі і арганізацыю работы цэнтра. Наогул жа, як прагназіруюць спецыялісты, за дапамогай сюды могуць прыйсці ад дзвюх з паловай да трох тысяч чалавек.

ПРАМЫЯ СУВЯЗІ



Дагавор на пастаўку камплектаў адзення, выробленага па канадскіх мадэлях, быў заключаны паміж Барысаўскай швейнай фабрыкай і фірмай "Глобал" у мінулым годзе. Першыя партыі адзення, накіраваныя з Барысава ў Канаду, спадабаліся пакупнікам, і дагавор фірмай прадоўжаны. Гэты заказ дае прадпрыемству магчымасць зарабіць каля 500 тысяч долараў. Валюта пойдзе на рэканструкцыю фабрыкі і мадэрнізацыю абсталявання.
НА ЗДЫМКУ: дэманстрацыя шортаў, пашытых па канадскіх мадэлях.

ЗАКОН І СПРАВЯДЛІВАСЦЬ

## СУД НАД М. РАЗУМАВЫМ

Пачалося слуханне "справы Разумава" ў Магілёўскім абласным судзе. Старшыні аршанскага гарадскога стачачнага камітэта, старшыні прафкома інструментальнага завода Мікалаю Разумаву прад'яўлена абвінавачанне ў закліках да забастовак, у арганізацыі несанкцыянiраваных мітынгаў і наўмыснага блакіравання 24—25 красавіка 1991 года чыгуначнага вузла ў Оршы.

У выніку гэтай акцыі рух пасажырскіх і грузавых паяздоў быў спынены, пад пагрозай аказалася жыццё многіх людзей. Беларускай чыгунцы нанесены матэрыяльны ўрон больш чым на сто тысяч рублёў.

Разам з абвінавачваемым на суд прыехала больш як семдзесят яго прыхільнікаў з Оршы, якія ўвайшлі ў залу з лозунгамі "Самавольства не дапусцім!", "Адкажам стачкай!" Разумаў адразу ж даў адвод суду па палітычных матывах, выказаўшы недавер суддзі і засядацелям, як членам КПСС. Але суд адхіліў гэта хадайніцтва, паколькі законам не прадугледжаны адвод па прыналежнасці да партый.

Тады лідэр аршанскага стачкома аб'явіў галадоўку. Нягледзячы на неаднаразовыя звароты суддзі Валерыя Новікава, М. Разумаў катэгарычна адмовіўся адказваць на пытанні.

У судзе было зачытана абвінаваўчае заключэнне і пачалося апытанне сведак.

Кожны дзень з Оршы ў Магілёў прыязджаюць дзесяткі аднадумцаў М. Разумава, спадзеючыся паўплываць на ход працэсу. Напярэдадні суда яны накіравалі тэлеграмы ў Вярхоўны Савет рэспублік, а таксама ў ААН, заклікаючы ратаваць рабочага лідэра Оршы. Яны лічаць суд над Разумавым расправай за ўдзел у забастовачным руху.

Праз некалькі дзён слуханне па справе Разумава было перапынена: узбунтавалася зала. На прапанову суда "Прашу сесці!" з усіх бакоў пачалі раздавацца галасы: "Закрыйце свой працэс! Ён не можа працягвацца, мы прыехалі яго сарваць". Народ вывеў Разумава з залы суда і суправаджаў да аўтавакзала, адкуль усе разам паехалі ў Оршу.

У Оршы арганізуецца пікет па збору подпісаў у ААН з просьбай прыслаць для расследавання аршанскіх падзей незалежную міжнародную камісію. Збіраюцца таксама подпісы ў Вярхоўны суд БССР з патрабаваннем адмяніць сам працэс.

КРЫМІНАЛЬНАЯ СТАТЫСТЫКА

## МАЛАЛЕТНІЯ ЗЛАЧЫНЦЫ

З пачатку 1991 года ў Мінску міліцыя затрымала ў нецвярозым стане 936 падлеткаў. Большасць з іх удзельнічалі ў бойках з нажамі, многія займаліся крадзяжом. З 350 крадзяжоў 99 складаюць кватэрныя.

У гэтым — цяжкі грэх дарослых: 450 з іх прыцягнуты да адказнасці за спойванне дзяцей.

МЕЖЫ СУПРАЦОЎНІЦТВА

## МЕДІНСТЫТУТ У ЛІВАНЕ

У Ліване восенню адкрываецца філіял Віцебскага медінстытута. У праекце, адобраным прэм'ер - міністрам гэтай блізкаўсходняй краіны, агаворваецца, што спачатку будзе працаваць падрыхтоўчае аддзяленне, дзе студэнты змогуць інтэнсіўна вывучаць рускую мову, біялогію, хімію, фізіку. У перспектыве ў Трыпалі, магчыма, будуць пабудаваны бальніцы і вучэбны корпус. Усё пакуль у будучым часе, але кіраўніцтва вышэйшай навучальнай установы поўнае аптымізму, бо ў гэтай краіне трэцяга свету даўно плённа функцыяніруюць філіялы навуковых устаноў ЗША і Францыі.

ЗАБЫТЫЯ ЛЮДЗІ



Усяго некалькі соцень метраў аддзяляюць дом № 16 у вёсцы Чырвоны Ручай ад Краснабудскага сельскага Савета Крычаўскага раёна.
Але для прадстаўнікоў Савецкай улады аказаліся яны непераадольнымі. Ва ўсякім выпадку, увагі і спагады з боку тых, каму па службовых абавязках належыць клапаціцца аб людзях, не адчуваюць да сябе інвалід І групы Уладзімір Сямёнаў і яго жонка Вольга Мікалаеўна, таксама інвалід.
Можна шмат расказваць пра іх беды. Але, думаецца, красамоўна сведчыць аб жыцці-быцці мужа і жонкі хаця б той факт, што на дваіх у іх — усяго адна пара старых кірзавых ботаў. Набыць другую пару няма дзе. У доме не хапае самага неабходнага. А тут яшчэ бяда: затапіла агарод, вымакла палавіна ўраджаю, каля дома — балота. Хто дапаможа адолець нявыдуманыя нягоды?
Мы ж цяпер так шмат гаворым пра міласэрнасць...
НА ЗДЫМКУ: вось так і жывуць муж і жонка СЯМЁНАВЫ.

НАВУКА — ЧАЛАВЕКУ

## ГЛЫТОК ВАДЫ

Сонца, якое забівае часам ахвяр марскіх катастроф раней, чым да месца трагедыі паспеюць выратавальнікі, дапаможа цяпер захаваць жыццё тым, хто церпіць бедства. Зробіць яно гэта з дапамогай партатыўнага плёначнага апраснільніка, распрацаванага спецыялістамі акадэмічнага навукова комплексу "Інстытут цепла- і масаабмену імя А. В. Лыкава, АН БССР". Пацярпеўшаму крушэнне дастатковa падзьмуць невялікі празрысты балон, заправіць яго марской вадой і, прывязаўшы фалам да лодкі, пакінуць за бортам. Дзякуючы парніковаму эфекту, ужо праз гадзіну першая сотня грамаў ачышчанай ад солі вады збярэцца ў спецыяльнай пасудзіне.

Падрыхтоўка да серыйнай вытворчасці апраснільнікаў пачалася. І ў хуткім часе яны папоўняць аварыйныя камплекты выратавальных сродкаў маракоў, лётчыкаў і касманаўтаў.

Найбольш эфектыўна апраснільнік працуе ў сонечнае надвор'е — звыш літра вады за светлавы дзень плюс чвэрць літра за ноч дзякуючы назапашанаму цяплу. Але нават у Арктыцы пры адмоўнай тэмпературы паветра і вельмі нізкім сонцы устаноўка напрацоўвала шклянку каштоўнай прэснай вады.

Прызначаны ў першую чаргу для выратавання на моры, апраснільнік можа працаваць і на сушы. Ён добра перапрацоўвае самую брудную ваду ў чыстую дысціляваную, якая за кошт ультрафіялетавага выпраменьвання сонца праходзіць да таго ж і бактэрыцыдную апрацоўку. Ці варта гаварыць, як гэта зручна для геолагаў, турыстаў, пастухоў або паляўнічых.

ЗАКОНАПАСЛУШЭНСТВА

## СПЫНІЦЬ ТОЛЬКІ КУЛЯ

232 разы ў гэтым годзе работнікам органаў унутраных спраў давялося прыбегнуць да крайняй меры — зброі, каб дабіцца законапаслушэнства, спыніць злачынствы і не дапусціць цяжкіх вынікаў. За ўвесь 1990 год падобных выпадкаў было ўсяго 38. Часцей за ўсё гэты крайні аргумент вымушаны выкарыстоўваць супрацоўнікі дарожнай службы ДАІ. Прычым сярэдні ўзрост гэтых хлопцаў — 27 гадоў. Правапарушальнікі, з якімі ім даводзіцца мець справу, у большасці сваёй іх аднагодкі: моладзь, якая не вучыцца, п'яныя вадзіцелі, трактарысты, кааператары.

ПАСКОРАНАЯ ПОШТА

## ДОРАГА, АЛЕ ХУТКА

У Мінску дзейнічае служба паскоранай пошты, якая створана пры дапамозе савецка-французскага прадпрыемства "Гарантпост". Карэспандэнцыя дастаўляецца ў 42 краіны Еўропы, Азіі і Амерыкі на працягу 3—7 сутак.

Кошт паслуг залежыць ад аддегласці, але нават у самую далёкую краіну 250-грамовае адпраўленне абыдзецца 110 рублёў.

Пакуль паслугамі новай пошты, а працуе яна ўжо другі месяц, карысталіся толькі дзесяткі чалавек.

СВЕЦКАЯ ХРОНІКА

## ВЫГАДНЫ ШЛЮБ

Газета "Витебский курьер" паведаміла сваім чытачам, што зусім нядаўна ў германскім горадзе Кёльне адбылася цікавая падзея — вянчанне васемнаццацігадовай віцябчанкі, уладальніцы тытулаў "Міс СССР-90" і "Панна Белая Русь" Марыі Кежа і нямецкага журналіста Ральфа Янзена.

Мясцовыя газеты ў раздзелах свецкай хронікі таксама не абышлі ўвагай гэты факт, змясціўшы нават фотаздымкі з подпісамі накшталт: "Цудоўная расіянка выходзіць замуж за бергхеймца" (Бергхейм — раён Кёльна, дзе пражывае жаніх).

Паведамляецца, што Маша і Ральф пазнаёміліся год назад у Маскве, дзе нямецкі журналіст працаваў над дысертацыяй. Мядовы месяц маладажоны праводзяць у Фларыдзе. Што датычыць іх далейшых планаў, то Марыя мяркуе паступіць на факультэт міжнародных адносін Кёльнскага універсітэта, а восенню наведаць родны горад.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● У ВНУ Мінска закончыліся ўступныя экзамены. 11 300 юнакоў і дзяўчат сталі студэнтамі універсітэта, політэхнічнай акадэміі, розных інстытутаў сталіцы.

● У мінскім магазіне "Будматэрыялы", каб дачніку купіць шыфер, трэба чакаць 18 гадоў. На 37 гадоў расцягнулася чарга на цэмент і аж на 50-55 гадоў — на цэглу.

● На камбінаце шаўковых тканін у Магілёве паўтары тысячы рабочых адпраўлены ў вымушаны адпачынак: нестае сыравіны. Перспектывы змрочныя: магчыма работу камбіната прыйдзецца спыніць. Пакуль часова.

● Прыватная адвакацка-страхавая фірма "Арцём" зарэгістравана ў беларускай сталіцы. У Мінску таксама ўзнік рэспубліканскі цэнтр дэтэктыўных службаў "Мэта". Акрамя ўсяго іншага, цэнтр будзе займацца прыватным вышукам.

● "Любоў — любоўь" — такую назву носіць новая газета, першы нумар якой выйшаў у Лідзе на Гродзеншчыне. Гэта выданне мае мастацка-літаратурны напрамак, старонкі газеты будуць прадастаўлены мясцовым паэтам, празаікам, мастакам.

● Павелічэнне колькасці кватэрных крадзяжоў падштурхнула спецыялістаў завода "Транзістар" да распрацоўкі новага замка. Пакупнікі могуць набыць шматфункцыянальны кодавы замок з электронным блокам кіравання. Цана такога замка — 570 рублёў.

ЧАС КАМП'ЮТЭРЫЗАЦЫІ

# ХТО НАС ВЫРУЧЫЦЬ

Без камп'ютэра сёння не можа абысціся ніводная галіна навукі, вытворчасці і нават культуры ў любой краіне. І ў нашай таксама. Уваходзяць у строй усё новыя тэхналагічныя сістэмы, і калі яшчэ ўчора яны былі толькі ў навукова-даследчых інстытутах, дык сёння іх сабраты папаўняюць сярэднія навучальныя ўстановы Беларусі. Праўда, пакуль гэтых разумных машын у нашых школах яўна не хапае. Гэта — мякка кажучы. Служба інфармацыі ААН паведамляе: на адну тысячу жыхароў ЗША прыпадае 164 адзінкі камп'ютэрнай тэхнікі, адпаведна на такую ж колькасць жыхароў Заходняй Еўропы — 85 адзінак, а вось у СССР — толькі 0,4 адзінкі. Ды і ў нас, у Беларусі, справы выглядаюць не лепш, бо толькі адна школа з дзесяці мае некаторую, так сказаць, "мінімальную базу" для навучання інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы на самых простых тэхналогіях з выкарыстаннем ЭВМ.

Так што ў Беларусі яшчэ далёка не ва ўсіх школах ёсць магчымасць навучаць дзяцей, ці хаця б стварыць гульневыя куткі з выкарыстаннем складанай тэхнікі. Па фінансавых, кадравых і іншых прычынах не ўсюды дарослыя ідуць насустрач дзіцячым захапленням і магчымасцям. А такая дапамога вучням проста неабходная, бо з прыходам камп'ютэраў у школу ўзніклі і новыя праблемы. І галоўная: празмерна складаныя і дарагія электронныя машыны. Дарэчы, і многія бацькі, з якімі даводзілася гутарыць, часта задаюць даволі распаўсюджанае пытанне:

— Ці заўсёды неабходна, у поўным сэнсе слова, навадняць школы ўсё больш новымі і дакладнымі дарагімі камп'ютэрамі?

Так, на самай справе, далёка не заўсёды і не кожны вучань можа на высокім узроўні працаваць са складанай машынай. Пры знаёмстве ж з зарубежнай перыёдыкай таксама назіраецца, што ў многіх краінах ужо сустракаюцца падобныя заганы ў камп'ютэрнай падрыхтоўцы школьнікаў.

Возьмем, напрыклад, ЗША. Празмернае ўкараненне ў сярэдніх навучальных установах гэтай краіны тэхнічных сродкаў навучання, асабліва ў 80-я гады, прывяло вось да чаго: з аднаго боку, амерыканскія школы сталі навадняцца ўсё больш сучаснымі машынамі, з другога, як адзначае ў сваёй кнізе "Сярэдняя школа" вядомы амерыканскі спецыяліст па камп'ютэрах Э. Боер, "...60 працэнтаў вучняў яшчэ не ў стане працаваць на гэтых машынах, што прывяло да прастою дарагой тэхнікі і яе спісання..." Пра такія ж з'явы ў Італіі і Японіі пісалася ў газеце "Морнінг стар" у снежні 1990 года.

Камп'ютэрызацыя, вядома, — справа дарагая. Па падліках беларускіх спецыялістаў, для найбольш поўнага забеспячэння толькі адной школы, скажам, у Мінску мінімальным комплексам камп'ютэрнага абсталявання на 26—30 вучнёўскіх месцаў неабходна прыкладна 350—500 тысяч рублёў. Сума гэта вельмі "цяжкая" для любой школы, ды і фондавыя магазіны, якія прадаюць такую тэхніку для школ, таксама не могуць задаволіць іх просьбы. Што ж тады рабіць? А выйсце, на мой погляд, у распаўсюджанні вопыту камп'ютэрнага забеспячэння вучэбна-вытворчага камбіната № 1 Гомеля. Тут вырашылі, што самым рацыянальным будзе выкарыстаць памяшканне вучэбнага камбіната, які наведваюць усе вучні ў вызначаныя дні тыдня. Ды і самім школам менш клопатаў з пастаянным пераабсталяваннем кабінетаў, іх расшырэннем, захаваннем гэтай гаспадаркі. Падыход гамяльчан зацікавіў і педагогаў Міншчыны. І гэта не выпадкова, бо толькі ў сталіцы сотні школ, а эканамічны эфект ад прымянення падобнага вопыту толькі па адной школе будзе прыкладна 250 тысяч рублёў у год.

Другі плюс у тым, што пры такім падыходзе будзе магчымасць стварыць самыя добрыя ўмовы для індывідуальнай работы і дыферэнцыраванага падыходу пры выкладанні прадмета. Ёсць і іншыя варыянты. Напрыклад, стварыць у раёнах горада 1—2 камп'ютэрныя цэнтры для навучання і гульняў. Праўда, нядрэнна б такія цэнтры зрабіць даступнымі ўсім, бясплатнымі. І каб там вучылі дзяцей не выпадковыя "спецыялісты", а высокакваліфікаваныя знаўцы сваёй справы. Такім чынам, раённыя камп'ютэрныя цэнтры — гэта лепшае, што можна прапанаваць у нас у рэспубліцы ў цяперашні час. Дарэчы, тут прасцей вырашаць кадравыя пытанні забеспячэння вучэбнай базы класнымі спецыялістамі-педагогамі. Наогул, у вырашэнні праблем іх падрыхтоўкі ў Беларусі зроблена нямала ў апошнія гады. Возьмем, напрыклад, мінулы год. Нашы школы атрымалі навучальную праграму па вылічальнай тэхніцы, даведнік для 9-га класа і першую частку метадычнага даведніка для настаўнікаў. Для выкладання новага прадмета летам было падрыхтавана больш за тры тысячы настаўнікаў (у сталіцы — больш за 500).

Адпаведную падрыхтоўку атрымалі, пачынаючы з 1986—87 навучальнага года, усе выпускнікі фізіка-матэматычнага факультэта Белдзяржуніверсітэта. Аднак зразумела, што толькі педагогі не могуць вырашыць усе праблемы камп'ютэрызацыі.

Адна з прычын — велізарны попыт на спецыялістаў падобнага профілю, пачынаючы з сярэдніх школ і да буйных інстытутаў Акадэміі навук БССР.

На думку вядучых вучоных рэспублікі, у тым ліку Уладзіміра Платонава, прэзідэнта АН БССР, выйсце з узнікшага становішча можна знайсці праз стварэнне ў вялікіх гарадах магутных навучальных камп'ютэрных цэнтраў, дзе кожны малады чалавек ад 8 да 19 гадоў, які тут пражывае, змог бы навучыцца не толькі асновам праграміравання, але і частковаму рамонту гэтай тэхнікі. Вучоныя прапанавалі яшчэ адно новаўвядзенне для падобных цэнтраў. Справа заключаецца ў магчымасці прадаставіць права гэтым арганізацыям прыцягваць моладзь да абліку інфармацыі па адпаведнаму дагавору з ёю. Як вядома, практычна любая арганізацыя гатова заплаціць за складанне праграм, шыфраванне анкет, перфарыраванне, апрацоўку і аддрукаванне даных ЭВМ. Чаму б тут не выкарыстаць як тэхнічных выканаўцаў тых жа юных грамадзян, якія самі выказалі жаданне дапамагчы дарослым у гэтай важнай справе. Ужо абгавораны тарыфы аплаты такіх работ. Адзначана, што гэта праца не будзе перашкаджаць вучобе дзяцей, бо яны будуць заняты ў залежнасці ад узросту ад 2 да 10 гадзін у тыдзень, прычым у пазавучэбны час.

Знойдзена яшчэ адна нітка, якая дазваляе дапамагчы ўваходжанню маладога чалавека ў бурлівае жыццё нашага грамадства пры пераходзе да рынachных адносін. Толькі ў такіх цэнтрах можна сабраць лепшы педагагічна-тэхнічны кадравы патэнцыял, тут жа прасцей сканцэнтраваць лепшыя тэхнічныя навінкі айчыннай і зарубежнай камп'ютэрызацыі, нарэшце, тут прасцей і больш надзейна падрыхтаваць юных да работы на складанай тэхніцы і адначасова лепшых з іх зацікавіць сапраўднай працай з аплатай іх працы.

Здаецца, пачатак пакладзены, і зараз гарадскія ўлады Мінска і рэспубліканскія органы ўдакладняюць умовы падпісання дагавора аб пастаўцы абсталявання, падборы спецыялістаў, змене раскладаў навучальнага дня школьнікаў і г. д. І ўсё-такі цяжкі гэта шлях — камп'ютэрызацыя. Таму хацелася б, каб нашы зарубежныя суайчыннікі, усе, каму дарагое адраджэнне нацыянальнай культуры і адукацыі ў Беларусі, дапамаглі ў гэтых сур'ёзных камп'ютэрных пачынаннях і словам, і справай, і сродкамі.

**Сяргей АНУПРЫЕНКА,**
**кандыдат філасофскіх навук.**

*ПРАЕСЦІ ЦІ ПУСЦІЦЬ У СПРАВУ?*

# КУДЫ ІДУЦЬ ІНВЕСТЫЦЫІ ЗАХАДУ

Для таго каб савецкая эканоміка змагла ўпэўнена інтэграваць у сусветныя гаспадарчыя сувязі, неабходна яе структурная перабудова, рэканструкцыя і мадэрнізацыя, але, на жаль, унутраных рэзерваў для гэтага відавочна мала. Цяпер часта называюць самыя розныя лічбы аб'ёму магчымых замежных інвестыцый у эканоміку СССР: ад 100 да 250 і больш мільярдаў долараў на працягу пяці гадоў.

Відаць, аўтары гэтых лічбаў бяруць пад увагу розныя галіны і сферы эканомікі. Таму і такі вялікі роскід у ацэнках. Але справа думаецца, не столькі ў аб'ёме заходняй дапамогі, колькі ў яе якасці і форме. І тут трэба проста сказаць, што калі такая дапамога зноў пойдзе ў форме крэдытаў дзяржаве, дык якогасьці сур'ёзнага зруху ў гэтым напрамку не будзе.

З-за адсутнасці тавараў у магазінах у нас пастаянна, напрыклад, задаюць пытанне аб тым, як і на што быў зрасходаваны крэдыт ФРГ 1988 года — 3 мільярды марак, прызначаны на карэнную мадэрнізацыю найбольш адсталых галін харчовай і лёгкай прамысловасці. Тады было гучна заяўлена аб сур'ёзнай рэканструкцыі і поўнай пераасначанасці сотняў нашых прадпрыемстваў, у тым ліку па выпуску макаронаў, сыру, бавоўняных і трыкатажных вырабаў, моднага абутку, упаковачных матэрыялаў. Ці бачыў хто-небудзь хаця б адно такое прадпрыемства? Аддачы ад гэтай шматмільярднай заходнегерманскай дапамогі не адчуў ніхто.

Ды што крэдыты, калі і аб уласных грошах, а дакладней, аб тым, куды яны пайшлі, мы практычна нічога не ведаем. Нам толькі паведамляюць, што тыя 176 мільярдаў долараў, якія былі атрыманы за экспарт нафты ў дзесяцігоддзе 1974—1984 гадоў, пайшлі, як вада ў пясок, мы іх праелі. І пры тым яшчэ ўмудрыліся назапасіць велізарны дзяржаўны знешні доўг.

Як станоўчы момант трэба адзначыць тое, што ўрад, нарэшце, прызнаў неэфектыўнасць прыцягнення сродкаў з-за рубяжа ў выглядзе пазыкі. А пра гэта ж гаварылася ўжо шмат гадоў. Сур'ёзныя эканамісты пастаянна ўказвалі на тое, што замежныя крэдыты часта расходуюцца не па прызначэнню. Абсталяванне, закупленае на гэтыя крэдыты, як правіла, ржавее, раскрадаецца. Устаноўленае ж выкарыстоўваецца крайне неэфектыўна па зусім розных прычынах: няма падрыхтаванага персаналу, нізкая якасць сыравіны, адсутнасць запасных частак і г. д. Але галоўная прычына ў тым, што прадпрыемствы, і гэта трэба асабліва падкрэсліць, фактычна працягваюць атрымліваць імпартнае абсталяванне бясплатна (у сэнсе валютнага пакрыцця), не нясуць матэрыяльнай і іншай адказнасці за зрыў мантажу, за правільнае выкарыстанне абсталявання. І да пагашэння крэдыту, на які яно было закуплена, яны таксама не маюць адносін.

Такім чынам, урад разумее, што асноўным павінна стаць не прыцягненне дзяржаўных крэдытаў, а выкарыстанне замежнай дапамогі ў ажыццяўленні канкрэтных праектаў, якія маюць сур'ёзнае эканамічнае абгрунтаванне і абяцаюць высокую эфектыўнасць. Атрыманне ж валюты павінна стаць вынікам жорсткай канкурэнтнай барацьбы паміж фірмамі, прадпрыемствамі, арганізацыямі.

Вельмі важным з'яўляецца прыцягненне замежных фінансавых сродкаў у выглядзе прамых прыватных інвестыцый. Гэта будзе садзейнічаць стварэнню неабходных вытворчых, тэхналагічных, тэхнічных і іншых перадумоў для структурнай перабудовы савецкай эканомікі. Зразумела, што гэтаму можа дапамагчы і ўдзел заходніх інвестараў у арганізуемых у нас у краіне акцыянерных таварыствах. Менавіта таму ўжо зараз фондавыя біржы рэспублік наладжваюць добрыя дзелавыя кантакты з многімі адпаведнымі біржамі свету.

Вядома, поспех справы можа быць толькі ва ўмовах палітычнай стабільнасці, а таксама пры даверы, зацікаўленасці з боку тых заходніх фірмаў і кампаній, банкаў і таварыстваў, якія б маглі і жадаюць стаць партнёрамі ў напружанай рабоце па перабудове савецкай эканомікі.

**А. ДЗЯРАБІН.**

## ПРОСТА І МУДРА ЖЫЦЬ

**У сціплым драўляным дамку па-вясковаму смачна пахне салёнымі агуркамі, свежазваранай у печы бульбай і сырадоем. Гаспадыня, напрацаваўшыся ў агародзе, управіўшыся з жыўнасцю, пачынае збіраць вячэру, расстаўляючы на стале хатнія прыпасы.**

**— Праўда, — гаворыць Галіна Рыгораўна, — сыны часам так стомяцца, асабліва ў гарачую пару ўборкі, што кубак малака вып'юць ды спяшаюцца хутчэй гадзінку-другую адпачыць. А яшчэ і пагуляць хочацца, бо аднаму 21, а другому — 19.**

**Зараз закончылася ўборка збожжавых, хутка пачнуць капаць бульбу. У пяці яе сыноў-механізатараў і ў мужа Мікалая Аляксеевіча да глыбокай восені — гарачыя дзянькі, праца ад цямна да цямна. Галіна Смаль — ужо трыццаць гадоў жонка механізатара. І таму добра ведае, што такое гарачая пара на вёсцы. Усе пяцёра яе сыноў працуюць побач з бацькам на конезаводзе "Зарэчча" Смалявіцкага раёна. Вялікая сям'я Смаляў перасялілася сюды, у вёску Паддуб'е, родныя мясціны Галіны Рыгораўны, з далёкага Казахстана. Дваццаць пяць гадоў пражылі да гэтага ў Какчатаўскай вобласці. Паехаўшы ў маладосці асвойваць цаліну — Галіна Рыгораўна з Беларусі, а Мікалай Аляксеевіч з Украіны, — знайшлі там адзін аднаго, стварылі вялікую, дружную сям'ю, выхавалі пяцёра добрых, дужых, прыгожых хлопцаў. Старэйшыя — Віктар, Канстанцін, Мікалай — маюць ужо свае сем'і, жывуць побач з бацькоўскім домам. Адслужыўшы армію, вярнуліся пад родны дах і двое малодшых — Аляксей і Анатоль.**

**Вось па такіх простых і мудрых законах жыве гэта дружная сельская сям'я, дзе ведаюць смак хлеба, цану мужчынскаму слову, дзе ўмеюць шанаваць і любіць адзін аднаго.**



**НА ЗДЫМКУ: сям'я СМАЛЯЎ. У цэнтры — Галіна Рыгораўна і Мікалай Аляксеевіч.**
**Фота А. НІКАЛАЕВА.**




81

Нарэшце настаў чаканы для Загорскага час. Вярхоўская была вольная й чула сябе змучанай. Яна з прыемнасьцей згадзілася пайсьці з Загорскім у рэстаран павячэраць. Ён павёў яе ў самы лепшы рэстаран, нядаўна адчынены на шумнай пражскай Водзічкавай вуліцы, — так званы "Акадэміцка кавярня". Тут было вельмі шумна й прыемна... Скрыпкі плаўна разьлівалі ў сэрцы свае сочныя, амаль што чалавечыя гукі. Пад гэтую музыку людзі вячэралі й скакалі, далей у другім пакоі йгралі ў більярд. Колькі тут было сьвету, асьляпляўшага вочы, колькі бліскучых убраньняў на паўголых дамах, колькі прыгожых і маладых мужчын. Загорскага тут ужо ведалі ўсе швэйцары й лёкаі, ён тут быў "сваім чалавекам", ён толькі раскланіваўся направа й налева.

— Хоць вы й сацыялістка, а вас трэба ўвесьці ў буржуазны рэстаран. Вы жа з добрай інтэлігентнай сям'і, й гэты сацыялізм і беларускасьць у вас толькі налёты. Пачакайце... Трэба вас увесьці ў чэскае грамадзянства. Пачакайце... Ён пасадзіў яе за столік і на хвіліну зьнік. Ён павярнуўся з некалькімі маладымі прыгожымі чэскімі студэнтамі. Усе вячэралі за адным сталом, пілі віно, падымалі за яе тосты. Як прыемна!.. Потым яна скакала з імі модныя танцы пад такую дзіўную прыгожую музыку.

— Давайце будзем гутарыць на "ты", — запрапанаваў Загорскі. — Так вось ад гэтага шуму... тут ёсьць асобныя пакоі... Давайце... ці ня пройдзем адпачнуць.

— Пройдзем.

Яны прайшлі ў асобны невялікі прыгожы пакоік, зачынілі дзьверы й селі на мягкі дыван.

— Тут досыць прыемна... Слухай, ты любіш

82

палітыку... Так вось пагутарым. Ты кажаш, што ня можна завясьці сацыялізму, пакуль няма капіталізму... Дык вось, па-майму, трэба спачатку на Беларусі заводзіць паноў й купцоў. А потым іх арабаваць.

— Граб награбленае, — засьмяялася яна.

— Але я ўсё ж ткі не разумею. Які жа ты думаеш будаваць на Беларусі сацыялізм?

— Ай, слухай, — яна схапілася за галаву, — у мяне ад гэтага віна галава круціцца. Я нічога не магу думаць.

— Кінь думаць, — засьмяяўся Загорскі, — ты павінна думаць аб адным: аб сваіх жаночых справах... Вось ножкі ў цябе прыемныя.

І ён лоўкім рухам падняў яе ўбраньне.

— Ну... Не забывацца! — закрычала яна. — Шмат ты пачынаеш дазваляць сабе.

— Ого, тады ты не марксыстка, — сьмяяўся Загорскі. — Марксысткі прызнаюць свабоднае каханьне, а ты нейкая статуя з кляштару.

Яна маўчала, але не выходзіла з пакою.

Што было далей у пакоі, невядома. Толькі пасьля гэтага іх заўсёды бачылі разам, як брат з сястрой, й яны заўсёды ў назначаны час хадзілі вячэраць у "Акадэміцку кавярню".

Загорскі вадзіў яе па Празе, паказваючы ей усе выдатныя помнікі гэтага старыннага прыгожага гістарычнага места. На кожным кроку, на кожным масту, на кожным доме, на кожным муру яны бычылі статуі, крыжы, подпісы ці таблічкі аб якіх-небудзь гістарычных падзеях. Часьцей усяго ў сонечныя прыгожыя дні яны спыняліся на высокіх валах Праскай крэпасьці — Вышаградзе. Адтуль адчыняўся прыгожы від на Прагу. Людзі ўнізу здаваліся маленькімі паўзунамі-мурашкамі.

83

З другога боку валу йшлі скалы, на вышыні якіх, быццам гнёзды нейкага арла, стаялі старынныя капліцы. Унізу праз тунэль у скалах ляцеў трамвай, а далей серабрыстай стужкай зьвівалася шырокая Влтава — прыток Эльбы, альбо Лабы, сьціснутая каменнымі, прыгожымі набераЖнымі. За Влтавай раскідавалася рабочае прадмесьце Сьміхаў дымячыміся камінамі сваіх фабрык і заводаў, з шумам й звонам ламавых фурманаў й аўто.

— Заўваж, — казаў Загорскі, трымаючы Вярхоўскую ў сваіх абоймах, — вось на гэтай скале — разваліны старажытнага замку.

Вярхоўская, каб пабачыць, мусіла высока падняць галаву.

— Ого! — сказала яна са страхам, — як там маглі збудаваць?

— Так вось, у сярэднія вякі чэскі кароль Отакар[1] быў пасаджаны ў гэты замак сваімі ворагамі... Але адзін раз уначы дзякуючы вернай варце ён выбраўся з турмы і на белым кані адважыўся скакнуць з гэтай скалы проста ў Влтаву. Адважны кароль выплыў і на другім беразе голасна засьмяяўся. Вось чаму тую частку й назвалі "Сьміхаў"... Нядаўна чэхі захацелі сфільмаваць гэтую сцэну для кіно, але не знайшлося такога адважнага.

Вярхоўская слухала апавяданьні з зьдзіўленьнем і клала галаву на плечы Загорскага.

Бывалі мінуты, калі яны хацелі заставацца ў інтымнай блізкасьці — тады яны падымаліся на высокую гару ў прыгожы парк з лавамі, з цяністымі стаўкамі, са скаламі, з якіх выцякала вада. Яны падымаліся ў частку Прагі, названую "Градчаны", мейсца рэзыдэнцыі чэскіх каралёў, а

84

зараз прэзыдэнта рэспублікі Масарыка, падымаліся па сходах, якім, здавалася, ніколі ня будзе канца. Загорскі, ведзячы пад руку Вярхоўскую, вясёла шаптаў: "Вось па гэтых сходах чэскі кароль Карл уцякаў калісьці ўначы ў карчомку, разваліны якой ёсьць каля Студэнцкага дому...

— Ня веру, — сьмяялася Вярхоўская, прытуляючы свой твар да твару Загорскага, — мэдык ня можа чакаць гісторыка... Але калі гэта так... Уяўляю сабе гора яго жонкі, ад якой ён уцякаў. Але я ўяўляю сабе гора караля, калі ён, закутаны ў чорны плашч, краўся, як злодзей, уначы з палацу па гэтых ступеньках.

А ступенькам не было канца. І яны абодвы сьмяяліся... Яны нарэшце падымаліся на Градчанскую гару і адтуль глядзелі, як зачараваныя, уніз. Уся велізарная Прага ляжала перад імі, як на далоні. Дзьве пакатыя гары, паміж якімі знаходзілася места, зелянелі кучаравымі кудрамі маладога лесу. Велізарная калона фабрык і заводаў здавалася гігантскімі папяросамі, завалаківаўшымі сіняе неба густым дымам. Дым стаяў над Прагай густой шэрай хмарай, засланяўшай сонца, і часам здавалася, што з гэтай хмары будзе ляцець ня сажа, а дождж. Пасярэдзіне ўсяго гэтага малюнку зьвівалася сіняя стужка Влтавы з папярэчнымі шэрымі палоскамі мастоў, па якой поўзалі, як жукі, параходы.

Яны сядзелі моўчкі, зачараваныя малюнкам. І ім пачынала здавацца, што жыцьцё такое прыемнае, радаснае вандраваньне па мейсцах, каторых яшчэ ня ведалі. Яны чулі сябе шчасьлівымі бесканечным шчасьцем, што яны робяць гэтае вандраваньне ўдвох, як брат і сястра.

Зразумела, што ў Студэнцкім доме шапталіся.

85

Не адзін і не два студэнты заўважывалі, што Загорскі з Вярхоўскай неразлучны, і ня раз жартавалі:

— Ну, грамадзяне, у нашай грамадзе нешта вясельлем пахне...

Але гэтым усе прызвычаіліся і пакінулі іх у супакоі. Рашылі, што справа — самае звычайнае зьявішча прыроды, тым больш, што элегантны Загорскі і разубраная Вярхоўская не зусім дрэнная пара.

IX

Пасьля памятнай паездкі ў карэце Тугоўскі пачуў, што ня може жыць без Вярхоўскай. Куды б ён ня йшоў, ён бачыў яе сьмяюшчыя вочы, ён чуў у сваіх вушах яе звонкі сьмех і адчуваў яшчэ дрож ад дотыку яе цела. Ён згубіў усякую магчымасьць вучыцца. Кожны раз, калі ён сядзеў над глыбокадумнай матэматыкай і выводзіў сухія формулы, — прыходзіла яна, садзілася бесцарамонна на яго калені й сьмяялася сваім звонкім сьмехам...

Ад гэтага сьмеху ён губляў усе свае думкі, усю сваю сьцюдзёную стрыманасьць і, як непрыстанны, кідаўся ў вір ахопліваўшага яго пачуцьця. Заместа матэматычнай формулы на паперы зьяўляліся жаночыя галоўкі... Яе вобраз зьяўляўся над кнігай і клікаў яго да сябе з прыветліва радаснымі вачыма. Ах, гэтыя жанчыны! Як вясна, як вясеньнія кветкі, вабілі яны яго сэрца, йшлі міма, як ляцеўшыя дні моладасьці.

Моладасьць! Вясна! Два дзіўных словы, у каторых было яшчэ столькі холаду, столькі нязьведанага шчасьця. Хто ж сагрэў бы яшчэ яго, хто мог бы яшчэ раскрыць дзіўны сэнс гэтага пахучага слова "вясна". Няўжо ніхто... Ніхто... Няўжо мо-

86

ладасьць завяне, не пасьпеўшы расцьвісьці, і ў студзяную, сівую, беласьнежную зіму старасьці ён скажа, падпёршы галаву рукамі: "Будзь тры разы праклята, мая вясна!"

А жанчыны йшлі ўсё міма, міма... Можа быць, ён хацеў зашмат шчасьця? Можа быць, ён шукаў вельмі дарагіх каштоўных кветак, як прыехаўшы з вёскі селянін, што ў цяжкіх намазаных дзёгцем ботах уваліваецца ў цьвяточную краму й грубай рукой з прагавітасьцей хоча як мага болей нарваць пахучых руж... Хто ведае?..

Толькі чаму ён, параўніваўшы заўсёды жанчыну з кветкай, ён, гатовы браць як дарагую кветку далікатнай рукой, ня меў нічога. У той час, як ён бачыў: у жыцьці гэтыя кветкі рвалі грубыя рукі — бязжаласныя рукі мужчын. Чаму? Таму, што гэтыя бязжаласныя рукі былі прыкрыты мягкімі рукавічкамі, таму што гэтыя жорсткія твары ўмелі прыкрывацца маскай усьмешкі й далікатнасьці, таму што ні адна з гэтых жанчын-кветак не глядзела праз вочы ў душу мужчын. Усе ганяліся за вонкавасьцей. "Ах, які прыгожы мужчына," — казалі яны, гэтыя студзёныя жанчыны-кветкі, і чым на ім было болей бліскучак, тым даражэйшую кветку ён мог сарваць і кінуць сабе пад ногі...

Тугоўскі якраз ня мог блеснуць сваёй вонкавасьцей... Прырода ня доўга думала над яго партрэтам і фігурай, ён быў высечаны грубым майстрам: нейкі квадратны твар з кантаватым падбародкам, зроблены быццам з простага камня, ногі

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 23 — 32.**

87

тоўстыя й кароткія, грудзі вузкія — словам, нейкі "брак" ў майстэрні скульптара. І ўсё ж ткі гэта не мяшала яму лічыць сябе ня горш за тых, у каго была бліскучая вонкавасьць. Зразумела, ён мог лічыць сябе ня горшым за тых, якія блішчэлі ад валасоў да лакіраваных чаравік, — але яны рвалі кветкі ў саду жыцьця...

А ён стаяў, гэты нязграбны Тугоўскі, стаяў у куту, як сірата, як лішні чалавек, ня прошаны на чужое сьвята. Жанчыны йшлі ўсё міма, міма. І ўсё ткі ці ж яго беднае, маленькае чалавечае сэрца ня мела права на шчасьце, на радасьць, на каханьне? Ён вырас і радзіўся на сьметніку — гэта праўда. Але ці ж гэта не давала яму права любавацца красой Вэнэры Мілоскай. Ці ж яму маглі перашкодзіць яго паходжаньне і яго выгляд пакахаць якую-небудзь прыгожу. Адзін раз, ён памятае, даўно, яшчэ пры бальшавіках, калі ён быў студэнтам бальшавіцкага інстытуту ў Харкаве, —іх агглядаў прыехаўшы рэктар разам з прыехаўшай міласэрнай сястрой. Міласэрная сястра настолькі была стройная, поўная, чырвоная,настолькі прыгожы быў яе бюст, прыкрыты белым фартукам з чырвоным крыжам, так горда яна нясла сваю галаву, што ўвесь інстытут глядзеў на яе, вывернуўшы вочы.

— Як яе прозьвішча? — запытаўся Тугоўскі ў сяброў. — Гэта сапраўдная Вэнэра!

— На што вам прозьвішча, — раптам сярдзіта агрызнулася адна студэнтка! — Вы гэтай сястры і падмёткі ня варты.

— А колькі каштуе яе падмётка? — агрызнуўся тады абражаны Тугоўскі пад агульны сьмех. Але гэтая фраза "і падмёткі ня варты", сказаная яшчэ жаночымі вуснамі, прымусіла яго задумацца.

88

Зразумела, гэта была праўда... З тэй пары ён пачаў думаць чад сваім "я", — і з тэй пары ён махнуў рукой на прыгожых жанчын, як на недаступнае шчасьце... "Жанчына..." — ён разгладжываў маршчыны на сваім шырокім чале. Пры адным слове, пры адным гэтым слове яго душу, яго сэрца напаўнялі парфумы і мімаволі вусны складаліся для сьмеху. Ён любіў можа быць не самы цялесны вобраз, а свой вобраз у гэтай жанчыне. Ён любіў у ей сваю мару, свой ідэал..

Нарэшце ён спаткаў свой ідэал. Быццам казачны прынц, які гуляў па садз .. нарэшце пабачыў кветку, якая прыветліва не схіліла перед ім сваю пышную галоўку. Ён нахіліўся над гэтай кветкай, каб яе панюхаць: " А што ж будзе далей?.. Каб не было так, як у казцы, што гэтая кветка стала адхіляцца ад яго далей і далей, як прывід. Што ж будзе далей?" Пакуль што ён пакахаў Вярхоўскую. Ён, бязверац, ён, насіўшы ў сэрцы чарвяка, тугу, раптам паверыў, што шчасьце магчыма... Усё паводжаньне Вярхоўскай, здаецца, аб гэтым казала: яна ахвотна гутарыла з ім, яна вясёла сьмяялась падчас яго жартаў, яна ўжо садзілася на яго калені, яна паказывала, што ён для яе не зьяўляецца адкінутым, нецікавым... Яна на момант падняла ў ім веру ў самаго сябе і, як міласэрная сястра, сваім сымпатычным словам, дотыкам сваей мягкай рукі залівала, як бальзамам, яго старыя душэўныя раны. Яна цягнула яго да сябе тысячамі дзіўных прыгожых нітак.

[1] Пшэмысл Отакар II (1253 — 1278), кароль "Жалезны і залаты" чэшскай дзяржавы.

